*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 35 (574) 11 ВЕРАСНЯ 2002 г.

## 24 верасня ў Доме літаратара -- з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў

## У Менску адкрылася беларуская гімназія

Другога верасня 2002 г. адбылася ўрачыстае адкрыццё сталічнай беларускамоўнай гімназіі № 23. Падзея адбывалася ў цэнтры горада, на праспекце Францішка Скарыны, непадалёк ад плошчы Якуба Коласа. Менавіта, падзея! Бо гэтаму папярэднічала вялікая праца і гарадскіх уладаў, і намаганняў грамадскасці.

Ва урачыстасці прымалі ўдзел намеснік старшыні Менскага гарадскога выканаўчага камітэта М.А.Пятрушын, старшыня Камітэта па справах адукацыі і моладзі г. Менска М.С.Ціцянкоў, намеснік кіраўніка адміністрацыі Савецкага раёна, дэпутаты гарсавета, намеснік дырэктара ААТ "ЦУМ "Менск", дырэктар беларускага радыё Н. Гальпяровіч і інш. Ад Таварыства беларускай мовы мела слова намеснік старшыні ТБМ, старшыня Рады ТБМ г. Менска Алена Анісім.

Святочны настрой стварала прысутнасць Францішка Скарыны, выступленне, гурта "Неруш". Асаблівае замілаванне і шчырае захапленне выклікала выступленне адзінаццацікласнікаў і вучняў падрыхтоўчых класаў гімназіі.

Напрыканцы імпрэзы навучэнцы ў беларускіх строях ўручылі гасцям букеты прыгожых кветак і званочкі.

***Наш карэспандэнт.***

## Наш месячнік набірае размах

З першага верасня паводле рашэння Сакратарыяту ТБМ у Беларусі распачаўся месячнік "Разаўляем па-беларуску". Інфармацыя аб яго правядзенні з'явілася ў рэспубліканскай і рэгіянальнай прэсе, прагучала на БТ і нават на хвалях рускамоўных ФМ-станцый. Газета"Комсомольская правда на Беларуси" прысвяціла месячніку ТБМ цэлую паласу.

Дзякуючы дапамозе менскіх прадпрымальнікаў, мы здолелі з 2 па 10 верасня размясціць каляровыя абвесткі пра месячнік у 74 вагонах менскага метро. З 9 верасня на працягу 28 дзён адпаведныя каляровыя афішы будуць размешчаны на 50 прыпынках гарадского транспарту побач з метрапалітэнам.

ТБМ таксама выраблла 150 каляровых плакатаў на вышэйзгаданую тэму з мэтай развесіць іх у вестыбюлях навучальных устаноў і бібліятэк Менска і іншых беларускіх гарадоў.



### *Віншуем з Днём народзінаў сяброў ТБМ, якія прыйшлі на свет у верасні:*

Алену Анісім
Паўла Барана
Аляксандра Барысенку
Зою Булатаву
Людмілу Гідлеўскую
Аляксандра Гізуна
Ніла Гілевіча
Андрэя Горлава
Алеся Гуркова
Зою Дзмітрыеву
Лявона Дзягілева
Юлію Дрык
Антаніну Зайку
Іну Казлоўскую
Івана Коўзеля
Уладзіміра Кошчанку
Мікалая Мацулева
Марыю Новік
Уладзіміра Содаля
Ігара Хлябу
Наталлю Штанюк

***Сакратарыят ТБМ.***

## Дамейка і Міцкевіч сустрэліся ў майстэрні Рычарда Грушы




Урамках праграмы ЮНЭСКА па святкаванні 200-годдзя з дня народзінаў Ігната Дамейкі ў майстэрні лідскага мастака Рычарда Грушы выраблены памятныя знакі Ігнату Дамейку і яго сябру Адаму Міцкевічу. 12 верасня памятны знак Ігнату Дамейку будзе ўстаноўлены ў вёсцы Крупава Лідскага раёна поблізу колішняга маёнтка Заполле, дзе Дамейка быў у высылцы, памятны знак Адаму Міцкевічу паедзе ў Наваградак. Тут жа ў майстэрні Р. Грушы выраблены помнік на магілу бацькі Ігната Дамейкі Антоні Гіпаліта Дамейкі, якая знайходзіцца каля касцёла ў Міры.

**На здымку: як і калісьці, Дамейка і Міцкевіч разам.**

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА** (назва выдання)

На 2002 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА** (назва выдання)

Кошт: падпіскі / пераадрасоўкі **1467** руб. / руб. — Колькасць камплектаў **1**

На 2002 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча,ініцыялы)





# Прафсаюзны капыл для Саюза пісьменнікаў

Як паведаміла газета "Народная воля" ад 14 жніўня 2002 года, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава абвясціла пра скліканне нечарговага з'езду СБП на 24 верасня 2002 года. Абвешчана і пытанне павесткі дня "Стан літаратуры і мастацкіх выданняў". 4 верасня Рада СБП пацвердзіла дату з'езду і месца: Дом літаратара. Але ні для кога ў пісьменніцкім асяроддзі не з'яўляецца сакрэтам, што не Вольга Іпатава – ініцыятар гэтага з'езду і што не адно гэта пытанне будзе прапанаванае для разгляду.

Паколькі мне будзе праблематычна трапіць на з'ездаўскую трыбуну і тым больш атрымаць неабходны час, для выкладання сваёй пазіцыі, хачу звярнуцца да сяброў Саюза пісьменнікаў праз газету.

У чым жа сутнасць канфлікту ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў, які шмат, хто спрабуе падаць, як канфлікт паміж старшынёй і намеснікамі, старшынёй і апаратам, старшынёй і ўладай, зараз грамадству навязваецца думка, што існуе канфлікт паміж апазіцыйна (па-бэнээфаўску) настроенай старшынёй і адміністрацыяй прэзідэнта ды ўрадам. Таму і не даюць Саюзу грошай на зарплаты, таму і выжываюць з Дома літаратара. Паставім, маўляў, лаяльнага да ўлады старшыню, і ўсё стане на месца: і грошы пацякуць, і Дом літаратара ды паліклініку вернуць, і намеснікі ды апарат бунтаваць не будуць.

Але давайце бліжэй глянем, што такое Саюз беларускіх пісьменнікаў і хто такая Вольга Іпатава.

Юрыдычна Саюз беларускіх пісьменнікаў гэта грамадская арганізацыя, і, па вялікаму рахунку, ніякіх грошай дзяржава выдзяляць Саюзу не павінна, як не выдзяляе ГА "БНФ Адраджэньне", ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны", Таварыству вольных літаратараў і іншым грамадскім арганізацыям. Гэта па вялікаму рахунку, але ёсць рахункі меншыя і строга канкрэтныя.

Паэты і пісьменнікі, магчыма, ад часоў Эзопа, а, магчыма, і яшчэ раней, займалі на планеце людзей асаблівае месца. Месца гэтае вызначаецца тым што ў іх працы ёсць нешта ад вышніх сілаў. Як Бог стварыў Сусвет, так і кожны пісьменнік у сваім творы стварае свой свет, насяляе яго сваімі героямі і на некаторы час перасяляе туды чытача. Чытач успрымае думкі, ідэі пісьменніка, становіцца на бок адных герояў і падзеяў і не ўспрымае іншых. Асабліва моцнае ўздзеянне літаратуры на дзяцей, на школьнікаў у сілу і таго, што літаратура ў школе абавязковы прадмет і вывучаецца практычна ад першага да апошняга класа, і таго, што дзеці больш успрымальныя і лягчэй адаптуюцца ў сусветах, створаных пісьменнікамі.

Таму любая ўлада: і свецкая, і духоўная заўсёды імкнулася ўплываць на літаратуру і на пісьменнікаў. Давала зялёнае святло адным творам і не дапускала да чытача іншыя, узвялічвала адных пісьменнікаў і расстрэльвала іншых.

Нічога не змянілася і зараз. Улада хоча кіраваць літаратурай і гатовая за гэтае права плаціць, дакладней гатовая купіць і літаратуру і пісьменнікаў, балазе досвед савецкай літаратуры яшчэ не забыты. Улада таксама гатовая душыць эканамічна, маральна і фізічна непадкупных. Грошы вялікая сіла. Як сказаў адзін літаратурны герой "Каго нельга купіць за грошы, таго можна купіць за вялікія грошы". За аксіёму можна прыняць і тое цвярджанне, што купіць лягчэй беднага і залежнага, чым багатага і вольнага. Пад словамі "багаты" і "бедны" трэба разумець багатых і бедных, як фінансава, так і духоўна, інтэлектуальна. Дык у чым жа справа, што нашыя пісьменнікі ўсе багатыя і незалежныя, усе непадкупныя? Для чаго патрэбная гэтая вазьня вакол Саюза? Адабралі маёмасць, пазбавілі фінансавання, разбегся апарат, што трэба яшчэ? Адказ просты: трэба зламаць беларускую літаратуру маральна, зламаць так, каб яна перастала быць літаратурай, а стала дзяўчынкай па выкліку. Трэба – вось вам твор, вось вам класік. Не трэба -- жыві, як хочаш. Таму што, як *"аднойчы здрадзіўшы..."*, так і *"аднойчы прадаўшыся..."*. Але сёння паміж уладай і літаратурай узнікла такая прорва, што далёка не ўсе хочуць, а шмат хто, калі і хоча, то не можа яе пераскокваць, нават калі з супрацьлеглага берага і дражняцца да непрыстойнасці смачным кавалкам.

Чым жа адрозніваецца надвор'е калі можна так сказаць, на гэтых берагах. Справа ў тым, што тут дуюць абсалютна розныя ідэалагічныя вятры і свецяць розныя светапоглядныя сонцы.

Што мы маем на беразе ўлады? Якія ідэі трымаюць і рухаюць гэты механізм. Хочам не хочам, а тут мусім пачаць з прэзідэнта. З усяго ідэалагічнага шматслоўя ў яго выказваннях мы можам даволі дакладна выдзеліць настальгію па ўсім савецкім, настальгію па дружбе народаў вакол вялікага старэйшага брата, настальгію па перспектыве, што калі-небудзь цябе возьмуць на павышэнне ў Маскву, а ў сувязі з гэтым і ўспрыманне ўласнай краіны, як нечага другараднага, як нейкай прыступкі перад вяршынай славы і ўлады. Прынамсі, так было да апошняга часу.

Побач з гэтым цяжкае ўспрамання новых рэалій у матэрыяльным і інтэлектуальным жыцці ўласнага народа.

Вакол прэзідэнта невялікая купка людзей з тым жа комплексам настальгіі, але на большасць сваёй яны то сённяшнія рэаліі ўспрымаюць, асабліва іх матэрыяльны бок.

Беларуская літаратура адгукнулася на гэтую настальгію творамі Івана Шамякіна "Палеская мадонна", "Вялікая княгіня". І, фактычна ўсё з больш-менш заўважнага.

Ёсць вакол прэзідэнта і кола людзей, што стаяць на жорсткіх русіфікатарскіх пазіцыях, якія больш ці менш удала маскуюцца ў цяньку той жа настальгі па вялікім і магутным.

Спробы зляпіць з гэтай настальгіі і русафільства нейкую дзяржаўную ідэалогію пакуль нічога не даюць. Расія даўно абтрэсла савецкі пыл са сваіх ног. У гэтым разрэзе беларускаму кіраўніцтву сёння блізкае толькі Прыднястроўе, але які з такога аднадумца толк?

На гэты бераг гатова карабкацца частка пісьменнікаў сярэдняга ўзроўню, старэйшага, савецкага веку, якіх свідруе знутры тая ж настальгія, так бы мовіць таких адстаўных маёраў ад літаратуры. Не ўсім ім на той бераг ускарабкацца, а толькі тым, каму міласціва пададуць руку, але ж спрабаваць можна, і спрабуюць. І каўбаса то ліверная, і карытца то маленькая, але паўзуць, скрабуцца, вішчаць.

На другім беразе прорвы беларускія пісьменнікі, якія абапіраюцца на тысячагадовую гісторыю дзяржавы, на беларускую мову і беларускую культурную самабытнасць. Іхнія героі пакрысе пакідаюць калгасы і перасяляюцца ў паганскія пушчы, у палацы вялікіх князёў і каралёў, на палі бясконцых бітваў за незалежнасць. Бацькаўшчына. На другім беразе пісьменніцкая моладзь, якая дакладна валодае мовай і як інструментам, і як матэрыялам у творчым працэсе.

На гэтым беразе сёння шмат праблемаў. Адсутнасць грошай, малыя наклады, смешныя ганарары, калі яны зусім ёсць, цяжкасць прабіцца ў дзяржаўнае выдавецтва і літаратурны часопіс. Але ўсё гэта – цяжкасці традыцыйныя. Асноўная ж праблема ў тым што пісьменнікі не маюць пры гэтай уладзе ніякай перспектывы. Моўнае, культурнае медыйнае асяроддзе, якое фармуе наша дзяржава на сваёй тэрыторыі не пакідае месца на гэтай тэрыторыі для беларускай літаратуры.

Татальная русіфікацыя школы, якая зараз адбываецца, перавод беларускай літаратуры ў гэтай школе ў шэраг трэцяразрадных прадметаў, па якім нават экзамену здаваць не трэба, незапатрабаванасць беларускамоўнага выпускніка у дзяржструктурах, эканоміцы, гандлі і г.д. Панаване ў эфіры рускамоўнай маскультуры, калі да тога, што там пануе можна прымяніць слова "культура". Глабальная страта беларускамоўнай вёскі, векавечнага апірышча беларускага пісьменніка, дзе ён, зазвычай, нараджаўся, дзе яго заўсёды чакалі і любілі.

Што чакае нашую літаратуру і нашых пісьменнікаў у гэтых умовах, калі і для класікаў наклад у 1000 асобнікаў за шчасце? Калі і як сітуацыя можа змяніцца да лепшага? Большасць пісьменнікаў абсалютна цвяроза разумее, што іх творы стануць запатрабаванымі толькі тады, калі стане запатрабаванай беларуская мова і беларуская культура. А тыя, хто не разумее, мусяць зразумець, асабліва моладзь. Быкаву то асабліва можна і не перажываць. што яго перасталі друкаваць у сенняшнім "Полымі" ці "Нёмане".

А вось маладым ёсць над чым думаць.

Улада прыдумала для пісьменнікаў геніяльную тэзу: "Пішыце таленавітыя кнігі і вас будуць друкаваць і ў Беларусі і за мяжой". Тэза была б правільнай абсалютна, калі б з пад яе не тырчалі вушы махровай дэмагогіі, быццам бы той жа чыноўнік не ведае, што геніяльныя і таленавітыя і пісьменнікі, і творы могуць з'явіцца толькі там, дзе кіпіць шматграннае літаратурнае жыццё. Творчае жыццё сугуба індывідуальнае, але кожны творца – прадукт грамадства, у тым ліку і літаратурнага грамадства.

Зыходзячы з гэтай тэзы кожны пісьменнік павінен ціхенька сядзець і маўчаць, пакуль не напіша нечага накшталт "Стары і мора" ці "Кво вадзіс".

Але ёсць і іншая тэза. "Паэтам можаш ты не быць, а ...". Тэза, аднаведна якой кожны пісьменнік павінен займаць актыўную грамадзянскую пазіцыю і побач са стварэннем шэдэўраў літаратуры мусіць дбаць пра змену сітуацыі ў грамадстве ў той бок, дзе яго шэдэўры будуць заўважаныя, ацэненыя і запатрабаваныя.

Ціхі пісьменнік не замінае ўладам. Бо калі яшчэ з'явяцца новыя "Людзі на балоце" ці "Каласы пад сярпом тваім". Пісьменнік-грамадзянін для ўладаў – сама непрыемная Таленавіты пісьменнік-грамадзянін -- для ўладаў суцэльны галаўны боль. А на пасадзе старшыні ўсяго Союза пісьменнікаў – боль дзесяцікратны.

Вольга Іпатава (ураджоная Драздоўская ) – аўтар раманаў выключнай гістарычнай важнасці і высокай мастацкай дасканаласці, сябар Рэспубліканскай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, чалавек, які непахісна стаіць на пазіцыях Беларушчыны, абапіраючыся на нацыянальную свядомасць, што зарадзілася яшчэ ў родным Міры і такая грунтоўная, як і Мірскі замак.

Зрушыць гэтую свядомасць для ўладаў так жа цяжка, як і зрушыць той замак. Таму ў іх выйсце адно – знішчыць, растаптаць, задушыць, пажадана рукамі саміх пісьменнікаў. Дзеля такой спробы і склікаецца з'езд. Такое пытанне і будзе паднятае.

Чаго будуць дабівацца ўлады на з'ездзе пісьменнікаў – ясна: замяніць няўгоднага старшыню на ўгоднага.

Што гэта дасць Саюзу? Будзе аднаўлена фінансаванне, вернецца на рабочыя месцы апарат. Старшыню пачнуць пасылаць на ўборку і, магчыма, возьмуць у Маскву, у новых варунках, можа, у Варшаву. Дом літаратара не аддадуць. Замнога будзе. На тым усё.

Што гэта дасць пісьменнікам і беларускай літаратуры? А нічагуткі. Холдыг будзе друкаваць холдынгавых аўтараў. Беларускамоўная прастора будзе прадаўжаць скарачацца, літаратура будзе гібець у занядбанні і г. д.

Спрабуючы замяніць старшыню СБП улады нацягваюць Саюз беларускіх пісьменнікаў на той самы капыл, на які нацягнулі прафсаюзы. Але пасля гэтага нашая арганізацыя ўжо будзе не Саюз пісьменнікаў, а бот, якому будзе дазволена больш ці менш гучна скрыпець пад пятой улады.

Што ж вынікае з такой сітуацыі?

Калі з'езд паддасца прэсінгу ўлады, то гэта будзе з'езд "аднойчы прадаўшыхся". А, прадаўшыся аднойчы, давядзецца прадавацца рэгулярна. Давядзецца прадавацца кожны дзень, моўчкі гледзячы, як навокал гіне ўсё беларускае.

Калі з'езд не паддасца, то гэта значыць – ён зробіць выбар на існаванне Саюза, як звычайнай грамадскай арганізацыі без дзяржаўнай падтрымкі. Гэта значыць, што паўстае пытанне стварэння сваіх літаратурных выданняў. Гэта запатрабуе актывізацыі ўсяго літаратурнага і калялітаратурнага жыцця.

Гэта запатрабуе ўрэшце – рэшт вялікіх грошай. Але гэта пакідае нам і свабоду творчасці і свабоду барацьбы за Беларусь.

У выніку ўсяго сказанага дылема высвеціласа надзвычай прымітыўная:

-ці грошы з дзяржаўнага бюджэту на ўтрыманне апарату С Б П:

-ці чэсная грамадзянская пазіцыя ў абарону Беларушчыны і свабода творчасці.

Выбар за вамі спадары паэты, пісьменнікі і іншыя літаратары.

*Станіслаў Суднік, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

## Вось парадны пад'езд...

Перад уваходам у Слуцкі Дом саветаў над шырокімі зашклёнымі дзвярыма вывешаны чатыры шыльды ў рамках: на двае для раёнага і гарадскога выканкамаў і Саветаў дэпутатаў. На беларускай і рускай мовах. У вестыбюлі дома, на лесвічных пляцоўках 4-га і 5-га паверхаў, на відавоку -- беларускамоўныя шыльды аб днях і часу прыёму наведвальнікаў у гарвыканкам і гарадскі Савет дэпутатаў, што па-добраму уражвае, тым болей, што і шыльдачкі на кабінетах выканкамаўскіх таксама напісаны на роднай мове, хоць, не сакрэт, што супрацоўнікі ў тых кабінетах паміж сабою і з наведвальнікамі размаўляюць гэтак жа, як і ў часы "развітога сацыялізму".

І тым не менш шыльды нібы напамінаюць вяскоўцам, што яны жывуць у незалежнай краіне, дзе беларуская мова – дзяржаўная.

Зусім іншая карціна на райвыканкамаўскім узроўні Шыльды аб днях і часах прыёму наведвальнікаў на лесвічных пляцоўках 3-га і 6-га паверхаў толькі рускамоўныя, быццам разлічаны не на сельскіх жыхароў, дзе беларусаў не меней 90 адсоткаў, а на гасцей з далёкага расейскага замежжа, дзе ў случчан ёсць гарады-пабрацімы.

Больш таго, на лесвіцы 2-га паверху на сценах нядаўна замацавалі па-майстэрску выробленыя з дрэва стэнды ўшанавальнага прызначэння – і ўсе з рускамоўнымі назвамі: "Гордость Слугчины" (з каляровымі фотапартрэтамі ветэранаў вайны і працы, былых перадавікоў вытворчасці і кіраўнікоў), "Доска почёта" (з фотапартрэтамі сёняшніх перадавікоў спаборніцтва) і "Трудовые коллективы победители 2001 г." з пералікам іх. Усе подпісы пад партрэтамі на рускай мове, як і ў брэжнеўскія часы, быццам на двары і не XXI стагоддзе!

Навязлівая рускамоўнасць у шыльдах – свайго роду сладчына, пакінутая былым старшынём райвыканкаму Зянонам Ломацем, які не так даўно перайшоў на працу ў Адміністрацыю прэзідэнта – інспектарам па Гомельскай вобласці. Прыйшоў на яго месца новы чалавек, з мясцовых кіраўнікоў, з багатым досведам работы ў вёсцы. Магчыма, ён унясе карэктывы ў тэксты міжпаверхавых шыльдаў, каб яны напаміналі наведвальнікам, што яны – і дзякаваць Богу – жывуць у незалежнай Беларусі, дзе беларуская мова да 1995 году была адзінай дзяржаўнай.

... У зборніку лірычнай прозы Янкі Брыля "Дзе скарб ваш" вычытаў так знаёмае многім з нас: "Як яна ў нас далёка, шырока, грунтоўна зайшла – русіфікацыя! Канцэрт па заяўках, мноства імён, назвы вёсак, раёнаў, а песні просяць перадаць больш, чым у пераважнай большасці, рускія... на колькі пакаленняў разлічана яно, наша беднае адраджэнне! Цяжка сказаць."

*Мікола Кутнявецкі, г. Слуцк.*





# Людзі ведалі яго як агранома і карэспандэнта, або чаму так доўга збіраліся беларусы на Кальварыю тады, у міжваенныя 1920 – 1930-я г.г. (Пра Антона Рафалавіча Янкоўскага, жыў у 1901 – 1982)

У 1992 – 93 гадах у час фальклёрна-этнаграфічных даследванняў у наваколлі вёсах Адамчукі, Кена, Міхнішкі, Лаварышкі



Краязнавец з Віленскага краю Антон Янкоўскі. Такім ён быў недзе ў канцы 1960-х – пачатку 1970-х г.г. (Фотаздымак з кнігі А. С. Ліса "Песню ў спадчыну. Мастацтвазнаўчыя артыкулы". Мн., 1989.)

і іншых, аж да родных Браніславу Тарашкевічу Чарнулішак, што ў сучасным Віленскім павеце (тады яшчэ раёне) Літоўскай Рэспублікі і сустракаючыся з мясцовымі жыхарамі-старажыламі – у тым ліку даўнімі удзельнікамі беларускіх культурных і палітычных арганізацый, што іскавалі ў 1920–30-я гады ў гэтай частцы тагачаснага Віленска-Троцкага павету Віленскага ваяводства міжваеннай Польскай Рэспублікі, я сустракаў і тых старажылаў, мясцовых беларусаў і палякаў (мясцовых віленскіх беларусаў – католікаў, ніякіх не этнічных польскіх перасяленцаў – мазураў, у простамоўі "варшавякоў"), якія расказалі мне і пра жыццё мясцовага беларускага (фактычна так) фальклярыста і этнографа, краязнаўца Антона сына Рафала Янкоўскага. Ахарактарызавалі мне яго простыя вясковыя людзі вельмі коратка і канкрэтна: "Быў карэспандэнт". Гэта значыць, будучы тамтэйшым ураджэнцам акрамя сваёй асноўнай працы аграномам у мясцовым калгасе (трэба адзначыць, што да Вялікай Айчыннай вайны працаваў павятовым інспектарам агародніцтва, недзе з 1930-х гадоў па аматарску збіраў (запісваў) беларускія, а часткова і польскія песні і іншыя фальклёрныя творы, звесткі па мясцовай этнаграфіі і звычаёвасці. Ён не быў узняўшымся у нізоў дзеячом, адстойвачом правоў і годнасці мясцовага беларускага насельніцтва падобна Антону Луцкевічу з Кены і Лявону Пячуры з Жэжні-цы, невядома ці прымаў удзел у беларускіх каталіцкіх працэсіях на Кальварыю у 1930-я (яны доўгі час не маглі выправіцца у Крыжовы Шлях) падобна яго сёстрам Альжбеце Рафалаўне Лаўрынавічэне (у дзявоцтве Янкоўская) і Уршулі Рафалаўне Ваўкавыцкай ( у дзявоцтве таксама Янкоўская) і землякам. У пасляваены час яму удалося пазбегнуць рэпрэсій, высылкі і катаргі, як іншым мясцовым беларускім грамадскім, палітычным, і царкоўным (тут на пераважна каталіцкім беларускім па стану на канец 19-га – пачатак 20-га стагоддзя) – каталіцкім дзеячам. Ён не быў вязнем сталінскіх малых і больших ГУЛАГАЎ (падобна хоць бы тым, што на Калыме, у прастамоўі "ў Магадане" і яшчэ дзе-небудзь на поўначы, поўдні ці ўсходзе СССР), як муж яго роднай сястры Альжбеты Рафалаўны, ураджэнец вёскі Гілюны каля Гярвятаў, што ў Астравецкім раёне Гарадзенскай вобласці, які быў у лагерах да 1956 года. З Альжбетай Рафалаўнай мы разам з віленскім музыкам і грамадскім дзеячом мясцовых беларусаў Юркам Зімніцкім пазнаёміліся ўлетку 1992 года. Ад яе мы (а як пасля высветлілася і Антон Янкоўскі у 1970-я г.г.) запісалі нескалькі традыцыйных беларускіх песень. Ён працаваў аж да выхаду на пенсію аграномам, ды нават у такім паважным узросце актыўнічаў, шмат пісаў у раённыя і рэспубліканскія газеты, спрыяў мясцоваму беларускаму культурніцтву, вясковай тэатральнай і іншай самадзейнасці, музейнай справе, некаторыя з сабраных ім песень перададзены ў 1970 г. у ІТЭФ імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі і захоўваюцца у інстытуцкім архіве, у 1990-я г.г., калі мне удалося ўпершыню запісаць першыя песні на Віленшчыне ў яго роднай Лаварышскай парафіі, яшчэ была жывая яго жонка. У халодны час году яна жыла ў Вільні ў сваёй дачкі. Мне шмат, аж нават пра слынны вечар мастацкай самадейнасці ветэранаў мясцовага калгаса, што пачаўся са спявання гімна Грамады: "Ад веку мы спалі і нас разбудзілі, мы ведаем што нам рабіць,,, " (і гэта ў 1960-я!-І.К.) расказалі яго родныя, землякі. Чытачу ж "Нашага слова" няхай дададуць яшчэ нешта – верыцца дабрае – фатаграфіі родных, землякоў Антона Рафалавіча, яго цяжкага ліста што суправаджаў яго дар для архіву, для Беларусі, а таксама фатаграфіі месца яго спачыну сярод адышоўшых у лепшы свет землякоў.



1972

Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР

Ліст Арсеню Лісу, які суправаджаў запісаныя ў 1960-1970-я г.г. Антонам Рафалавічам Янкоўскім беларускія народныя песні, запісаныя ад сваякоў і аднавяскоўцаў. Многія ж насняваныя ім самім. (Ліст 1972 года). У архіве Інстытута захоўваюцца 3 стужкі з песнямі Віленшчыны (амаль усе песні беларускія) запісу А. Р. Янкоўскага.

Вельмі верагодна, што некаторыя з чытачоў газеты у 2001-м годзе скарысталіся з канвертаў, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння і 20-годдзю з дня смерці Антона Рафалавіча Янкоўскага, выпушчаных "Белпоштай" (на канверце партрэт Антона Рафалавіча Янкоўскага і выява родных яго мясцін, як недзе ў нас у Беларусі – вёска, хаты, дарога, лес, поле, луг). Таксама вельмі верагодна, што многія з нас чулі гэтыя пе́сні, што спявае Віленшчына, ці пачуюць, не забыўшы пра нашых яшчэ жывых землякоў вяскоўцаў – людзей шмат у жыцці перажыўшых, зведаўшых і годных. А для пачатку хаця б звярніцеся да архіву інстытута, і не толькі...

*Ігар Карашчанка.*



Альжбета Рафалаўна Лаўрынавічэня (ў дзявоцтве Янкоўская) і Ўршуля Рафалаўна Ваўкавіцкая (ў дзявоцтве Янкоўская), в. Язова, Віленскага раёна, Літоўскай рэспублікі, 1993 г.



Беларускі ручнік, вытканы на Віленшчыне.



Магіла Антона Янкоўскага (1901-1982) на Лаварышскіх могілках. Так яна выглядала ў 1993 г.

